# ШЧАСЦЯ Ў КОЖНЫ ДОМ!



Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№1—4(514—517) 1 студзеня 1993 г. Пятніца.  Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах.  Кошт у розніцу — 10 руб.


# Навагодняе віншаванне

## Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.С.Шушкевіча беларускаму народу



Дарагія суайчыннікі!

Адлічвае апошнія імгненні адыходзячы год. Такія моманты заўсёды хвалююць. Міжволі хочацца азірнуцца ў мінулае, задумацца аб будучыні.

1992-і быў няпросты, нават — драматычны. Ён стаў выпрабаваннем на трываласць і вытрымку, здольнасць ствараць і жыць у незалежнай дзяржаве. У складаных умовах народ Беларусі зноў пацвердзіў сваю мудрасць і працавітасць, прыхільнасць да згоды і міру.

Дзякуючы гэтаму стала магчымым прыпыніць спад вытворчасці, захаваць больш высокі, чым у іншых краінах Садружнасці, узровень жыцця.

На жаль — поспехі сціплыя: яны дазваляюць цешыцца, але пакуль што не даюць падстаў ганарыцца. Карэнныя змены, якія перажывае грамадства, балюча паўплывалі на многіх у Беларусі. Чарговы раз мы пераканаліся ў тым, што вельмі дорага даводзіцца плаціць за рэформы, калі яны грунтуюцца не толькі на цвярозым разліку, а ў значнай ступені і на радыкальным энтузіязме. Сёння, як ніколі раней, зразумела, што вынікі пераўтварэнняў маглі б быць больш абнадзейваючымі, калі б яны праводзіліся досыць абгрунтавана, досыць асэнсавана, а галоўнае паслядоўна.

І ўсё ж я перакананы, што курс на сацыяльна арыентаваную рыначную эканоміку, на ўсямернае развіццё прыватнай ініцыятывы пры забеспячэнні асноўных сацыяльна-эканамічных правоў грамадзян — у цэлым быў правільны. Скажу болей — непазбежны.

Неабходна далей ісці гэтым курсам, замацаваць яго асновы ў новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, прыняць яе і ўвесці ў дзеянне ў надыходзячым годзе.

Нацыянальны характар беларусаў, узважанасць палітыкі Вярхоўнага Савета і ўрада дазволілі захаваць цэласнасць рэспублікі, непахіснасць яе межаў, грамадзянскі мір. Ганаруся тым, што Беларусь не дазволіла ўцягнуць сябе ў этнічныя і сацыяльныя сваркі. Ні адна кропля крыві не пралілася на нашай зямлі ў рэлігійных альбо міжнацыянальных канфліктах.

Распад Саюза не выклікаў катастрофы, якую прадракалі прысяжныя аракулы. Пайшоў другі год існавання Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Яе ўтварэнне было аб'ектыўнай неабходнасцю, якая дазволіла захаваць на пэўным узроўні жыццёва важныя сувязі і адносіны з рэспублікамі былога СССР. Садружнасць — новы, не маючы прэцэдэнта ў гісторыі тып міждзяржаўнага аб'яднання. Яна яшчэ не ўсталявалася, не выпрацавала найбольш эфектыўныя формы супрацоўніцтва.

Будзе мяняцца ступень інтэграцыі, Садружнасць можа набываць розныя контуры, але сама ідэя яднання, заснаваная на агульнасці эканамічных інтарэсаў і адзінстве гістарычнага лёсу, бясспрэчная.

Мы не павінны забываць, што Беларусь была і застаецца еўрапейскай краінай. Нашы намаганні ў адыходзячым годзе накіроўваліся на тое, каб ператварыць Рэспубліку Беларусь у раўнапраўнага партнёра ў сусветнай супольнасці. 108 дзяржаў прызналі Беларусь, з 68 з іх мы ўстанавілі дыпламатычныя адносіны. Але сапраўднае раўнапраўе на сусветнай арэне дасягаецца не толькі праз юрыдычнае прызнанне. Яно будзе рэальным, калі Беларусь забяспечыць устойлівае развіццё сваёй эканомікі, уздыме ўзровень абароны правоў і свабод чалавека. Дасягненне такога раўнапраўя — галоўная мэта дзяржавы, усіх структур яе ўлады.

Як ніколі раней самай важнай справай з'яўляецца аб'яднанне нашага народа, каб яго своеасаблівасць стала крыніцай сілы ў свеце. У тым свеце, дзе кожная краіна адыгрывае сваю ролю. Наш абавязак — не толькі клапаціцца аб блізкім і далёкім беларускім замежжы, але адшукаць падыходы для ўключэння беларускай эміграцыі ў стваральную працу на карысць Бацькаўшчыне.

Адыходзячы год быў знамянальным у плане духоўнага адраджэння нацыі. Год, надыходзячы за хрысціянскім тысячагоддзем Беларусі, павінен спрыяць далейшаму развіццю традыцый і мовы беларускага народа, яго культуры і менталітэта, стварэнню новых духоўных каштоўнасцей.

Беларусь жыла, жыве і будзе жыць! З верай у гэта сустракаем мы надыходзячы 1993 год. Надзея і вера павінны быць заўсёды, як і любоў да сваёй зямлі, да сваёй справы, да свайго народа.

Шлях да дастойнага грамадства доўгі і цярністы. прайсці яго можна толькі разам, толькі ў згодзе.

Будзем верыць і дзейнічаць, шукаць разумныя рашэнні на карысць кожнага з нас.

Няхай у новым 1993-м споўняцца жаданні і надзеі, няхай мір і згода будуць у нашай душы і нашым доме.

З Новым годам, шаноўнае спадарства!

З Новым годам, сябры!







**Іван РУБІН**

*Свецяцца ў доме радасць і цяпло.*
*Новы год ступае на пуховых лапках.*
*Як язычнік у чароўнай шапцы,*
*Сочыць, колькі шчасця намяло.*
*"Колькі там надзей адмераў век?" —*
*Шэпча ёлка з ціхынёй у змове.*
*Дух Айчыны з лерою плыве,*
*Ціха шчырыя світаюць словы.*
*Запануе той святочны тлум,*
*Калі зычаць лепшае ўсе людзі.*
*Падабрэе і павернецца к святлу*
*Новы дзень і заўтрашні наш будзень.*



## "Я самы моцны ў свеце!"

(Інтэрв'ю алімпійскага чэмпіёна Аляксандра Курловіча чытайце на 7-й старонцы ў спартыўным выпуску "Тайм").

## "Ён ужо ведаў, якая яго чакае "ўзнагарода" — наркотык..."

(Нарыс пра радавога "афганскай" вайны, былога савецкага вязня, чытайце на 8-й старонцы, што носіць назву "Крымінал").

## Год Чорнага Пеўня? Каб толькі ён быў шчаслівым для ўсіх!

(Самая цікавая, самая неверагодная і багатая на сюрпрызы інфармацыя — на 13-й старонцы, якая называецца "Чорны Певень").

*Событие*

# Присяга на верность Беларуси

**Я гражданин Республики Беларусь — эти слова военной присяги произносили тысячи солдат и офицеров белорусской армии. Торжественный церемониал состоялся во всех воинских частях. На верность республике и ее народу поклялись и сотрудники государственной безопасности. Накануне этого торжественного дня корреспондент Белинформа обратился к Председателю Верховного Совета Станиславу Шушкевичу, министру обороны Павлу Козловскому и председателю Комитета государственной безопасности Эдуарду Ширковскому с просьбой ответить на некоторые вопросы.**

* * *

**— Станислав Станиславович, как вы оцениваете принятие присяги с точки зрения главы государства и просто гражданина Республики Беларусь?**

— Я прежде всего горжусь тем, что мы пришли к этому дню в обстановке согласия, уважения достоинства и гордости офицеров. За те четыре месяца, которые были отведены для принятия парламентов этого важного документа, Совет Министров и Министерство обороны проявили достаточно мудрости и терпения, чтобы найти выход из непростой ситуации.

**— Почему бы в данном случае вам не принять присягу на верность белорусскому народу? Ведь вы не только офицер запаса, но и председатель Совета безопасности Республики Беларусь?**

— Я считаю, что всякое доброе начинание нельзя превращать в фарс. Хотя вопрос действительно задан правильный.

* * *

**— Павел Павлович, 31 декабря состав Вооруженных Сил принимает присягу на верность Республике Беларусь и ее народу. Как вы оцениваете тот факт, ведь в списке присягающих вы первый?**

— Для белорусской армии событие это поистине историческое. Поэтому будет правильнее ответить на ваш вопрос не только от себя лично, но и от имени многих офицеров, для которых это новый этап и в службе, и в жизни. Ведь с принятием присяги для многих из них определится и вопрос с гражданством. А это немаловажно.

Непростой была дорога к этому дню. И, как человек военный, я рад, что для всех закончилась она миром и согласием.

* * *

**— Эдуард Иванович, 31 декабря пока не государственный праздник...**

— И тем не менее на этот раз военным с праздниками повезло несколько больше. И с поздравлениями тоже. Ведь принимают их от родных и близких сотрудники КГБ не только по случаю новогодних празднеств, но и по случаю принятия военной присяги. Поэтому настроение у личного состава, прямо скажем, приподнятое. Подготовка, связанная с церемониалом, успешно прошла по всей территории республики. Приятно отметить, что среди личного состава комитета не было сомнений на счет принятия или непринятия повторной присяги.

Считаю, что, если существует самостоятельное суверенное государство, оно должно иметь и все необходимое для отстаивания своих интересов. В том числе и надежную структуру государственной безопасности.

**Сергей ЗАЯЦ,**
**Белинформ — специально для "Народной газеты".**

*(Репортажи корреспондентов "Народной газеты" об этом знаменательном событии в жизни республики читайте в следующем номере.)*

*Новогодний пресс-коктейль*

## Деткам — конфетки, коллективам — цветные телевизоры

**29 декабря премьер-министр Республики Беларусь Вячеслав Кебич и министр образования Виктор Гайсенок посетили Радошковичскую школу-интернат для детей-сирот и ребят, оставшихся без попечения родителей.**

В рамках благотворительной акции "Больные дети", организованной Белорусским детским фондом, Министерством образования и правительством Беларуси, дети получили новогодние подарки, каждый из которых стоит около 700 рублей.

В этот же день с поздравительной миссией первый заместитель Председателя Совета Министров республики Михаил Мясникович, министр торговли Валентин Байдак, председатель Белкоопсоюза Григорий Грищенков, заместитель министра образования Георгий Бутрим посетили Жодинскую школу-интернат и дошкольный детдом. Детям вручили подарки, а коллективам работников — цветные телевизоры.

Правительство Беларуси, Министерство образования и Белорусский детский фонд изыскали для этих целей средства из собственных ресурсов.

**Татьяна ЩЕБЕТ, БелаПАН.**

## СССР умер, но память о нем жива

**30 декабря 1992 года Союзу Советских Социалистических Республик исполнилось бы ровно 70 лет.**

До этого юбилея СССР, как известно, не дожил. Однако светлая память об ушедшем в историю государстве, похоже, навсегда осталась в сердцах некоторых наших соотечественников. Позавчера в Минске на площади Независимости группа пожилых людей возложила цветы к подножию памятника основателю Советского государства Владимиру Ульянову (Ленину).

**Николай ДЕБЕЛО.**

## Мягко стелет?..

**Производство новой водки "Беларусь" освоил на исходе года Брестский ликеро-водочный завод.**

Фирменный напиток смогли поставить на новогодний стол те, кто не поторопился отоварить месячные талоны на спиртное. По словам специалистов, фирменную водку отличает исключительная мягкость. Что скажут знатоки?

**Василий ВИКТОРОВИЧ.**

## Отречемся от старого мира?

**Накануне ухода старого года решили окончательно порвать со старыми идеалами неизвестные в деревне Защебье Речицкого района.**

Они сбросили с постамента изготовленный из бетона трехметровый памятник Ленину.

**Петр ЯНЧУК, РИД.**

## Дзе самыя нізкія цэны?

Саўмінаўскія газеты часта друкуюць паведамленні аб цэнах на важнейшыя прадукты харчавання і тавары ў розных рэгіёнах былога СССР. З іх заўсёды вынікае, што ў Беларусі ўсё намнога танней. Маўляў, ведайце, які ў нас добры ўрад!

Але ці так гэта на самай справе. Для паўнаты інфармацыі даём лічбы, што не пападаюць у паведамленні, якія рыхтуюць саўмінаўскія службы. У Туркменіі кілаграм мяса і масла каштуюць па 60 рублёў, цукру — 17, хлеба — 1 рубель 50 капеек. У Казахстане цагліну прадаюць за 5 капеек, ліст шыферу — за 5 рублёў і г.д.

**Сяргей ПЯТРОЎ.**

### Неблагоприятные дни в январе:

3, 6, 12, 21, 23, 30.

## Вкратце

**30 декабря в Минске министры иностранных дел Республики Беларусь и Литовской Республики подписали соглашение об установлении дипломатических отношений между двумя странами.**

* * *

**Министр иностранных дел Республики Беларусь Петр Кравченко принял временного поверенного в делах Индии в Беларуси Анджея Сварупа.**

Стороны обменялись мнениями о ходе подготовки визита белорусской правительственной делегации в Индию.

* * *

**Сессия Академии аграрных наук Республики Беларусь, которая состоялась 29 декабря в Минске, пришла к выводу, что республика в состоянии удовлетворять свои потребности в зерне за счет собственного производства.**

* * *

**Общего железнодорожного хозяйства в Содружестве быть не должно. К такому выводу пришли представители управлений железных дорог бывших союзных республик, которые накануне Нового года собрались в Минске, чтобы обсудить вопрос, связанный с разделом всесоюзного вагонного парка.**

Белорусские железнодорожники получили своеобразный подарок — 39 тысяч вагонов.

* * *

**28—29 декабря в Санкт-Петербурге состоялось второе пленарное заседание Межпарламентской ассамблеи государств—участников СНГ.**

В целях восстановления и развития хозяйственных связей, формирования общего экономического пространства и создания благоприятных условий для проведения реформ, обеспечения социальной защиты населения при переходе к рынку Межпарламентская ассамблея рассмотрела актуальные вопросы развития сотрудничества государств Содружества.

Ассамблея призвала к скорейшему установлению гражданского мира в Таджикистане и незамедлительному возобновлению переговорного процесса при посредничестве стран Содружества.

* * *

**Недоверие правительству Союзной Республики Югославии во главе с Миланом Паничем выразили обе палаты Скупщины (парламента) СРЮ, сообщает агентство ТАНЮГ.**

Как известно, Милан Панич на прошедших недавно в Сербии президентских выборах потерпел поражение в борьбе с лидером социалистической партии Сербии Слободаном Милошевичем.

* * *

**Президент США Буш и президент России Ельцин планируют подписать договор по СНВ-2 в предстоящие выходные дни.**

Об этом сообщил пресс-секретарь Белого дома Марлин Фицуотер.

* * *

**Попытка переворота предотвращена в Сьерра-Леоне.**

Как говорится в переданном по радио заявлении главы этого африканского государства Валентина Страссера, неудавшийся путч пыталась организовать в ночь на вторник группа бывших офицеров, а также гражданских лиц, входящих в так называемое "революционное движение против коррупции".

Часть участников заговора погибла, многие арестованы, отмечается в заявлении.

* * *

**В Польше продолжается забастовка горняков крупнейшего в стране Силезского угольного бассейна.**

* * *

**Китай намерен активно поставлять оружие Ирану и некоторым другим азиатским странам, используя выручку для модернизации своих вооруженных сил путем закупки новейших вооружений в России.**

Как сообщает со ссылкой на анонимные китайские источники японская газета "Иомиури", Пекин предполагает поставить Тегерану 100 истребителей Ф-7, от 30 до 200 установок зенитных ракет, от 100 до 500 танков и такое же количество артиллерийских орудий.

* * *

**Правительство Франции выделило Беларуси краткосрочный кредит в размере 70 миллионов франков на операции, которые будут осуществлять тремя банками республики: Внешэкономбанком, Белпромстройбанком, Приорбанком.**

Логическим продолжением этого шага явится, по решению французского правительства, среднесрочный кредит для финансирования наиболее важных областей промышленности Беларуси.

Об этом сообщил Чрезвычайный и Полномочный Посол Французской Республики в Беларуси Клод Жолиф на встрече с министром иностранных дел нашей республики Петром Кравченко.

**(ИТАР—ТАСС, Белинформ, "Народная газета".)**

## Вытрезвитель-93. Кто первый?

**На финише 1992 года сотрудники витебского медвытрезвителя готовили к открытию новый корпус своего учреждения.**

Более просторное, оно необходимо городу, побившему, наконец, рекорд пьянства, установленный в разгар "развитого социализма" — накануне антиалкогольной кампании 1985 года. Нынче на каждую витебскую душу — от велика до мала — пришлось по 12,5 литра водки. Если прикинуть, сколько вдобавок опрокинуто самодельной "гари", то результат впечатляет, как и цифра посетителей милицейско-медицинского "приюта". Годовая цифра — 7900 клиентов.

Зато крупно не повезло любителям культурного питья: шампанского на каждого горожанина пришлось всего по 500 граммов. Без этого напитка празднуют Новый год большинство витебских семей. В госторговле его нет, а коммерческая цена превышает 1000 рублей.

**Сергей СЕРГЕЕВ.**

## Будьте здоровы! В новом году...

**Нехватка спиртного в предпраздничные дни стала едва ли не главной проблемой многих жителей Минска.**

Работники торговли ссылаются на нездоровый ажиотаж вокруг повышения цен на спиртное и частые подделки вино-водочных талонов. На столичном заводе "Кристалл" пояснили, что на них тоже было бы грех сетовать — квартальный план по производству "горячительных" уже выполнен и даже перевыполнен.

И все же будем надеяться, что вы встретили Новый год под звон бокалов, наполненных шампанским!

**Алесь СИВЫЙ.**

## Спадарожнага ветру...

**Выехаць за мяжу грамадзянам Беларусі ў далейшым будзе намнога прасцей дзякуючы прынятай 28 снежня гэтага года Саветам Міністраў рэспублікі пастанове "Аб далейшым удасканаленні парадку афармлення дакументаў для выезду за мяжу".**

Каменціруючы гэты дакумент на брыфінгу, што адбыўся ў МЭС Беларусі, намеснік міністра замежных спраў рэспублікі Уладзімір Астапенка паведаміў, што міністэрства пачынае перарэгістрацыю дыпламатычных і службовых загранпашпартоў былога СССР, якія дзейнічаюць да увядзення новых нацыянальных пашпартоў. На першай старонцы такога пашпарта ў адпаведнасці з урадавай пастановай праcтаўляецца штамп, які указвае на беларускае грамадзянства яго ўладальніка. Дыпламатычныя і службовыя загранпашпарты, не перарэгістраваныя ва ўстаноўленым парадку, з 1 студзеня 1993 года аб'яўляюцца несапраўднымі.

**Белінфарм.**

Рисунки Олега ПОПОВА.

## Спасибо варшавскому Деду Морозу?

**Лишь счастливая случайность и нетипичный для Варшавы крепкий мороз спасли жизнь представителя фирмы "Метроном" из Минска и, вероятно, многих жильцов дома, в котором проживают сотрудники посольств и торговых представительств государств бывшего СССР.**

Из-за мороза не завелся автомобиль представителя фирмы, а благодаря случайности оказался слабым магнит, которым террорист прикрепил к днищу бензобака боевую гранату "Ф-1". И когда один из соседей коммерсанта вызвался толкнуть машину, к его ногам выкатилось смертоносное изделие защитного цвета. К кольцу гранаты была привязана бечевка, которая, как предполагает обезвреживавший ее польский полицейский из спецбригады по борьбе с терроризмом, по замыслу преступника должна была зацепиться за что-нибудь и привести в действие взрыватель.

По мнению специалистов, радиус поражения в случае взрыва гранаты и автомобиля, который находился на стоянке возле дома, составил бы до 100 метров. Начато расследование этого террористического акта.

**Александр ПОТЕМКИН.**

## Дед Мороз проверит мост

**Есть особый повод для новогодней радости у жителей Первомайского района Витебска.**

Накануне праздника открылось движение по мосту Блохина, связывающему самую бойкую магистраль — Московский проспект с западной частью областного центра. Мост переброшен через Западную Двину в том же месте, где его предшественник стоял с 1934 по 1989 год. Именем Федора Блохина он был назван в честь воина-героя, помешавшего в 1944 году отступающим немцам взорвать эту чудом уцелевшую бетонную переправу. Благодаря солдатскому подвигу мост "трудился" до глубокой старости. Строители мостопоезда N 425 утверждают, что новая конструкция послужит городу не меньше, чем прежняя.

**Сергей БУТКЕВИЧ.**

*Дзівакі ўпрыгожваюць свет*

## Кароткае імгненне казкі

**Нечакана ў гукі шаркаючых падэшваў, "Асцярожна, дзверы зачыняюцца" і нечай лаянкі, уварваліся іншыя. Светлыя, чыстыя, бы неба, крыху забытыя. Ды дзе! У змрочным падземным пераходзе, які звычайна мінеш, не заўважаючы.**

А тут раптам Дзед Мароз без Снягуркі, але з кларнетам. Яны ўдваіх сумавалі, аб чымсьці ўспаміналі, пускаліся ў кароткія скокі, заляцаліся да дзяўчат. І святлеў тварам рэкеціpападобны асілак, кідаў скупое "дзякуй" разам з купюрай, корпалася ў сумцы пенсіянерка, каб адшкадаваць "вавёрачку".

...Гершвіна змяняў расказ пра ёлачку, што ў лесе нарадзілася, затым можна было пазнаць нешта з рэпертуару парыжскіх шансанье...

Кароткае імгненне казкі. Расчульвацца не трэба, лепш усміхніцеся, будзьце добрымі. Нельга ўвесь час жыць у злосці. Дзякуй, Дзед Мароз, прыходзь яшчэ і са Снягуркай!

**Сяргей ГРЫЦ, фота аўтара.**

*Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*

## Аб прысуджэнні Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 1992 года ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры

Разгледзеўшы прапановы Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры, Прэзідыум Вярхоўнага Савета і Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляюць:**

1. Улічваючы, што значна павялічылася колькасць твораў, прадстаўленых на атрыманне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, якія адрозніваюцца высокімі мастацкімі і навукова-даследчымі якасцямі, лічыць мэтазгодным прысудзіць, у парадку выключэння, 12 прэмій замест 11.

2. Прысудзіць Дзяржаўныя прэміі Рэспублікі Беларусь за 1992 год:

### У галіне літаратуры

**імя Янкі Купалы**

**Законнікаву Сяргею Іванавічу** — за кнігу паэзіі "Заклінанне"

**Звонаку Алесю (Звонаку Пятру Барысавічу)** — за кнігу паэзіі "Святлацені"

**імя Якуба Коласа**

**Грахоўскаму Сяргею Іванавічу** — за кнігу "Споведзь"

**Жуку Аляксандру Аляксандравічу** — за кнігу "Праклятая любоў"

**Сёмуху Васілю Сяргеевічу** — за пераклад з нямецкай мовы на беларускую рамана Томаса Мана "Доктар Фаўстус"

**імя Кастуся Каліноўскага**

**Ермаловічу Мікалаю Іванавічу** — за гістарычна-публіцыстычную кнігу "Старажытная Беларусь. Полацкі і новагародскі перыяды"

**За творы літаратуры і мастацтва для дзяцей і юнацтва**

**Пархуту Яраславу Сільвестравічу** — за кнігу "Зямля бацькоў нашых"

### У галіне журналістыкі

**Уліцёнку Аляксандру Леанідавічу** — за кнігу публіцыстыкі "Іншадумцы. Мыслящие иначе"

### У галіне музыкі і канцэртна-выканальніцкай дзейнасці

**Гарэлавай Галіне Канстанцінаўне**, кампазітару, — за кантату "У год сусветнага пажару"

### У галіне тэатральнага мастацтва

**Кін-Камінскаму Уладзіміру Тадэвушавічу, Кур'яну Уладзіміру Мітрафанавічу, Манаеву Віктару Сяргеевічу, Пінігіну Мікалаю Мікалаевічу** — за пастаноўку ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы спектакля "Тутэйшыя" па п'есе Янкі Купалы

### У галіне архітэктуры і выяўленчага мастацтва

**Агуновічу Эдуарду Канстанцінавічу**, мастаку, — за архітэктурна-мастацкае вырашэнне экспазіцый Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску і Музея партызанскай славы ў г.п. Ушачы Віцебскай вобласці

**Селешчуку Мікалаю Міхайлавічу**, мастаку, — за серыю графічных аркушаў "Святы" ("Каляды", "Гуканне вясны", "Вербніца"), за цыкл карцін "Мая Беларусь", за ілюстрацыі да кніг "Сымон-музыка" Якуба Коласа і "Сказки белорусских писателей".

3. Устанавіць у 1992 годзе Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры ў памеры 50 мінімальных заработных плат.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В.Ф.КЕБІЧ.**

28 снежня 1992 г. №2077-XII/779
г.Мінск

*Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*

## Аб прысуджэнні Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 1992 года ў галіне навукі і тэхнікі

Разгледзеўшы прапановы Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі, Прэзідыум Вярхоўнага Савета і Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь пастанаўляюць:

1. Прысудзіць Дзяржаўныя прэміі Рэспублікі Беларусь 1992 года:

### У галіне навукі

**Ельяшэвічу Міхаілу Аляксандравічу**, акадэміку Акадэміі навук Беларусі, доктару фізіка-матэматычных навук, прафесару, галоўнаму навуковаму супрацоўніку акадэмічнага навуковага комплексу "Інстытут цепла- і масаабмену імя А.В.Лыкава", **Ганчарову Віктару Канстанцінавічу**, кандыдату фізіка-матэматычных навук, загадчыку лабараторыі лазернай плазмадынамікі Навукова-даследчага інстытута прыкладных фізічных праблем імя А.Н.Сеўчанкі, **Мінько Леаніду Якаўлевічу**, доктару фізіка-матэматычных навук, прафесару, загадчыку лабараторыі радыяцыйнай плазмадынамікі Інстытута малекулярнай і атамнай фізікі Акадэміі навук Беларусі, **Раманаву Генадзію Сцяпанавічу**, кандыдату фізіка-матэматычных навук, намесніку дырэктара, загадчыку лабараторыі радыяцыйнай газавай дынамікі акадэмічнага навуковага комплексу "Інстытут цепла- і масаабмену імя А.В.Лыкава", **Станкевічу Юрыю Аляксандравічу**, кандыдату фізіка-матэматычных навук, загадчыку сектара лабараторыі радыяцыйнай газавай дынамікі таго ж комплексу, **Чумакову Аляксандру Мікітавічу**, кандыдату фізіка-матэматычных навук, вядучаму навуковаму супрацоўніку Інстытута малекулярнай і атамнай фізікі Акадэміі навук Беларусі, — за цыкл работ па фізіцы плазмадынамічных працэсаў пры лазерна-плазменным уздзеянні на металы і кампазіцыйныя матэрыялы;

**Грышыну Ігару Мікалаевічу**, доктару медыцынскіх навук, прафесару, загадчыку кафедры хірургіі Беларускага дзяржаўнага інстытута ўдасканалення ўрачоў, **Давідоўскаму Ігнацію Адамавічу**, кандыдату медыцынскіх навук, асістэнту кафедры хірургіі таго ж інстытута, **Марціновічу Анатолію Андрэевічу**, загадчыку аддзялення хірургіі сасудаў Мінскай абласной клінічнай бальніцы, **Міхайлаву Анатолію Мікалаевічу**, доктару медыцынскіх навук, прафесару, загадчыку кафедры прамянёвай дыягностыкі Беларускага дзяржаўнага інстытута ўдасканалення ўрачоў, **Руцкаму Аляксандру Уладзіміравічу**, члену-карэспандэнту Акадэміі навук Беларусі, доктару медыцынскіх навук, прафесару, рэктару, загадчыку кафедры артапедыі і траўматалогіі таго ж інстытута, **Саўчанку Аляксандру Мікалаевічу**, доктару медыцынскіх навук, прафесару, намесніку дырэктара Беларускага навукова-даследчага інстытута кардыялогіі, — за цыкл работ па распрацоўцы і ўкараненню ў практыку сасудзістай хірургіі новых метадаў дыягностыкі і лячэння;

**Коневу Сяргею Васільевічу**, члену-карэспандэнту Акадэміі навук Беларусі, доктару біялагічных навук, прафесару, загадчыку лабараторыі біяфізікі і фотабіялогіі мембран Інстытута фотабіялогіі Акадэміі навук Беларусі, **Чарніцкаму Яўгенію Аляксандравічу**, доктару біялагічных навук, прафесару, загадчыку лабараторыі фізіка-хіміі біялагічных мембран таго ж інстытута, **Валатоўскаму Ігару Дзмітрыевічу**, члену-карэспандэнту Акадэміі навук Беларусі, доктару біялагічных навук, прафесару, дырэктару таго ж інстытута, **Мажулю Уладзіміру Міхайлавічу**, доктару біялагічных навук, прафесару, загадчыку лабараторыі фатонікі бялкоў таго ж інстытута, **Пікуліку Леаніду Рыгоравічу**, доктару фізіка-матэматычных навук, прафесару, вядучаму навуковаму супрацоўніку Інстытута малекулярнай і атамнай фізікі Акадэміі навук Беларусі, **Слабажанінай Кацярыне Іванаўне**, кандыдату біялагічных навук, вядучаму навуковаму супрацоўніку Інстытута фотабіялогіі Акадэміі навук Беларусі, — за цыкл работ па люмінесцэнцыі бялкоў і яе выкарыстанню ў навуковых даследаваннях і практыцы, апублікаваных у 1956—1991 гадах;

### У галіне тэхнікі

**Мазурэнку Анатолію Мітрафанавічу**, доктару тэхнічных навук, прафесару, загадчыку лабараторыі сінтэзу звышцвёрдых матэрыялаў Інстытута фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў Акадэміі навук Беларусі, **Левусенку Анатолію Аляксеевічу, Нічыпару Валерыю Віктаравічу, Ракіцкаму Эдуарду Браніслававічу**, навуковым супрацоўнікам таго ж інстытута, **Казлоўскаму Міхаілу Аляксеевічу**, былому загадчыку аддзела сінтэзу звышцвёрдых матэрыялаў Спецыяльнага канструктарска-тэхналагічнага бюро з доследнай вытворчасцю таго ж інстытута, — за распрацоўку навуковых асноў сінтэзу звышцвёрдых інструментальных матэрыялаў;

**Баранаву Ігару Лівер'евічу**, кандыдату тэхнічных навук, загадчыку лабараторыі электрахімічнай тэхналогіі звышвялікіх інтэгральных схем Мінскага радыётэхнічнага інстытута, **Дударчыку Анатолію Іванавічу**, кандыдату тэхнічных навук, намесніку галоўнага інжынера навукова-вытворчага аб'яднання "Інтэграл", **Калошкіну Эдуарду Пятровічу**, доктару тэхнічных навук, галоўнаму інжынеру таго ж аб'яднання, **Красніцкаму Васілію Якаўлевічу**, кандыдату тэхнічных навук, галоўнаму інжынеру Спецыяльнага канструктарска-тэхналагічнага бюро таго ж аб'яднання, **Лабунову Уладзіміру Архіпавічу**, акадэміку Акадэміі навук Беларусі, доктару тэхнічных навук, прафесару, загадчыку кафедры мікраэлектронікі Мінскага радыётэхнічнага інстытута, **Шкуту Анатолію Міхайлавічу**, начальніку спецыялізаванай вытворчасці навукова-вытворчага аб'яднання "Інтэграл", — за стварэнне і прамысловую рэалізацыю высокаэфектыўнай сістэмнай тэхналогіі масавай вытворчасці звышвялікіх інтэгральных схем.

2. Устанавіць у 1992 годзе Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі ў памеры 50 мінімальных заработных плат.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В.Ф.КЕБІЧ.**

29 снежня 1992 г. №2082-XII/789
г. Мінск.

*Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*

## Аб пераносе дня адпачынку ў студзені 1993 г.

У мэтах стварэння спрыяльных умоў для адпачынку працоўных і рацыянальнага выкарыстання рабочага часу ў студзені 1993 г. Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

перанесці дзень адпачынку з суботы 16 студзеня на пятніцу 8 студзеня 1993 г.

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В.КЕБІЧ.**

**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М.КАЎКО.**

28 снежня 1992 г.
г.Мінск.

*У люстэрку сацыялогіі*

# Палітык года — Станіслаў Шушкевіч!

## Яго сярэднегадавы рэйтынг — 33,6 %. На другім месцы лідэр парламенцкай апазіцыі Зянон Пазьняк — 6,6 %. На трэцім — Старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч — 4,7 %.

**Сяргей ПЛЫТКЕВІЧ, фота аўтара**

Паважаныя чытачы! Сёння мы ўпершыню даём вам магчымасць прасачыць, як на працягу апошніх двух гадоў змяняўся рэйтынг папулярнасці найбольш вядомых палітычных дзеячаў Беларусі. Для гэтага дастаткова паглядзець на графік, у якім вертыкальная шкала — узровень папулярнасці, гарызантальная — час правядзення сацыялагічных апытанняў.

Не навязваючы чытачам сваіх меркаванняў, хацелася б толькі нагадаць, якія падзеі адбываліся ў рэспубліцы падчас правядзення беларускай службай "Грамадская думка" сацыялагічных апытанняў і як яны ўплывалі на іх вынікі.

Такім чынам, сакавік 1991 года. На пытанне "Хто з палітычных дзеячаў Беларусі з'яўляецца для вас найбольш аўтарытэтным?" 17,5% рэспандэнтаў адказалі — Вячаслаў Кебіч, 16,5% — Станіслаў Шушкевіч, 6,3% — Зянон Пазьняк. Зразумела, называліся і іншыя прозвішчы, але значна радзей.

Красавік 1991 года — павышэнне цэнаў, Мінск скаланаецца ад забастовак. Станіслаў Шушкевіч, які фактычна прыняў на сябе ўвесь удар незадаволенасці рабочых (успомніце, што менавіта ён вёў перагаворы з забастакамам, спрабаваў пераканаць людзей на мітынгах), згубіў больш за ўсіх — 6,9% — сваіх прыхільнікаў. Зянон Пазьняк у гэты час знаходзіўся ў замежнай паездцы. І хоць апазіцыя поўнасцю падтрымала забастоўкі, у лідэра яе прыхільнікаў таксама паменшала. Знізіўся рэйтынг і ў Старшыні Савета Міністраў.

Жнівень—верасень 1991 года. Усе мы добра памятаем тыя драматычныя месяцы. Якраз на іх прыйшоўся пік папулярнасці апазіцыі і яе лідэра (20,0%), якія адкрыта выступілі супраць путчыстаў. Кампартыя Беларусі атрымала накаўтуючы ўдар, яе дзейнасць часова прыпыняецца — і рэзка знізілася папулярнасць Вячаслава Кебіча, якога атаясамлівалі з ёю. Ідзе ў адстаўку Мікалай Дзямянцей, Станіслаў Шушкевіч пачынае выконваць абавязкі Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі і ўпершыню па выніках апытання становіцца найбольш папулярным палітыкам рэспублікі (21,0%). У верасні Шушкевіч і Кебіч змагаюцца за пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета, тэлебачанне штодзённа транслірye сесію Вярхоўнага Савета, і ўзровень папулярнасці абодвух палітыкаў узрастае, але калі С.Шушкевіч дасягае 40,3%, то В.Кебіч — толькі 10,0%.

Лістапад 1991 года. Беларусь — незалежная дзяржава, але жыццё яе жыхароў лепшым не стала. Ад былой эйфарыі з нагоды прыняцця Дэкларацыі аб незалежнасці не засталося і следу, людзей хвалююць тыя ж праблемы: як выжыць? І беларускія палітыкі зноў губляюць сваю папулярнасць...

Снежань 1991 года — пасля падпісання Белавежскага пагаднення кіраўнікамі Беларусі, Украіны і Расіі аўтарытэт Станіслава Шушкевіча пачынае зноў расці. А падчас апытання 3 студзеня 1992 года ён дасягае максімальна высокага ўзроўню (52,0%). Успомнім: 25 снежня адбылося падпісанне Алма-Ацінскага пагаднення, якое пацвердзіла палітычны акт у Белавежскай пушчы, Міхаіл Гарбачоў заявіў аб спыненні свайго прызідэнцтва, Савецкі Саюз знік з карты свету. У людзей — зноў надзея, што хоць цяпер закончыцца неразбярыха ва ўзаемаадносінах паміж рэспублікамі, што жыць стане лягчэй і спакайней. Цікава, што ў гэты ж час папулярнасць В.Кебіча, які таксама падпісваў і Белавежскае, і Алма-Ацінскае пагадненні, паніжалася.

Затое ў лютым 1992 года, калі мы перажылі чарговае павышэнне цэн, а Станіслаў Шушкевіч згубіў адразу 16,7% сваіх прыхільнікаў, аўтарытэт жа В.Кебіча крышачку падняўся, як, дарэчы, і ў лідэра парламенцкай апазіцыі Зянона Пазьняка (13,7%).

Сакавік 1992 года — пачатак 9-й сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі, прыняцце рашэнняў аб павышэнні мінімальнай зарплаты, аб раздзяржаўленні ўласнасці і іншыя зноў вяртаюць лідэру парламента яго прыхільнікаў (47,1%), і зноў фіксуецца падзенне рэйтынгу яго асноўных сапернікаў.

Пра тое, што было пазней, нагадваць, я думаю, няма патрэбы. Усе мы памятаем, як ініцыятыўная група спяшалася сабраць неабходную колькасць подпісаў, каб пытанне аб рэферэндуме Вярхоўны Савет рэспублікі разгледзеў на вясенняй сесіі. Але парламент на гэта не пайшоў, сесія была спынена, дэпутаты раз'ехаліся на доўгія канікулы. А жыццё з усімі яго праблемамі працягвалася. І ад таго, што яны не вырашаліся, аўтарытэт палітыкаў толькі зніжаўся.

У кастрычніку 1992 года зарэгістраваны рэкордна нізкі рэйтынг усіх трох нашых найбольш вядомых палітыкаў. У кастрычніку больш паловы рэспандэнтаў заявілі, што яны не бачаць у Беларусі палітыка, які б мог вывесці рэспубліку з крызісу.

Праз два месяцы (снежаньскае апытанне) сітуацыя змянілася, рэйтынг папулярнасці беларускіх палітыкаў узрос. Чаму так здарылася? Адкрылася 10-я сесія Вярхоўнага Савета рэспублікі, пачаліся штодзённыя рэпартажы па тэлебачанню, радыё і ў газетах. Перад сесіяй Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч зрабіў серыю паездак па гарадах рэспублікі (Орша, Барысаў, Баранавічы), якія шырока асвятляліся ў друку. Зразумела, не сядзелі,



склаўшы рукі, і яго асноўныя канкурэнты. Узрослая палітычная актыўнасць імгненна дала вынік. Напрыклад, пасля візіту Шушкевіча ў Оршу яго папулярнасць па выніках апытання ў гэтым горадзе аказалася ў два разы вышэйшай, чым у сярэднім па рэспубліцы.

Сацыёлагі адзначаюць і наступныя цікавыя моманты. Чамусьці ў Гомельскай вобласці ў Станіслава Шушкевіча рэйтынг увесь час вышэй, чым у Брэсцкай і Гродзенскай. Вячаслава Кебіча стабільна падтрымліваюць жыхары сельскай мясцовасці і ўпраўленчы апарат. Сярод прыхільнікаў Зянона Пазьняка ў асноўным гараджане, пры гэтым сярод іх многа рабочых, нямала пенсіянераў.

Можна было б яшчэ прыводзіць розныя факты, але не будзем злоўжываць цярпеннем чытачоў. Графік змянення рэйтынгаў найбольш папулярных палітыкаў рэспублікі перад вамі, разважайце, аналізуйце, калі ласка, самі.

Адзначым адзінае: работа, якую праводзіць беларуская служба "Грамадская думка", вельмі патрэбна як палітыкам, так і ўсім нам. Палітыкі бачаць, як рэагуе на іх дзейнасць народ. Так-так, той самы народ, дзеля якога, па іх словах, яны працуюць і жывуць. А мы можам параўнаць свае ацэнкі з меркаваннем тысяч іншых грамадзян рэспублікі і ўпэўніцца, што разумеем сваіх лідэраў правільна, або наадварот — што, магчыма, памыляемся. Такім чынам — карысць агульная. Засталося толькі знайсці грошы, каб прадаставіць магчымасць сацыёлагам даць адказы і на многія іншыя пытанні, якія хвалююць наша грамадства. Тады, магчыма, дзяржаўныя рашэнні будуць рыхтавацца больш дэталёва, а кіраўніцтва рэспублікі будзе ўпэўнена, што прынятыя пастановы і рашэнні запрацуюць, што іх прыме большасць грамадзян Беларусі.

Але гэта толькі наша пажаданне...

↑ ❑ *Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч у Барысаўскім раёне.*

↙ ❑ *Старшыня Савета Міністраў рэспублікі Вячаслаў Кебіч.*

↓ ❑ *Старшыня сойма БНФ Зянон Пазьняк.*

**P.S.** Астатнія беларускія палітыкі маюць значна меншы рэйтынг папулярнасці, таму мы сканцэнтравалі сваю ўвагу на трох лідэрах. Тым не менш заўважым, што падчас кожнага апытання рэспандэнты стабільна называюць прозвішчы Ганчара, Булахава, Карпенкі, Адамовіча, Заблоцкага і іншых. Ці ўварвецца хтосьці з іх (або нехта зусім невядомы) у тройку лідэраў, пакажа час. Мы ж віншуем усіх палітыкаў з Новым годам і спадзяёмся, што іх дзейнасць будзе толькі на карысць беларускаму народу.






*И звезда с звездою говорит...*

## Английская королева будет рада видеть Колю, когда разберется со своими семейными проблемами

**Маргарита СТАРЫХ**

**Да, как это ни удивительно, но скандалы в королевском семействе, а затем и пожар в родовом замке коснулись самым непосредственным образом десятилетнего минчанина Коли Гималетдинова.**

Дело в том, что юный виолончелист был приглашен во дворец на берегу Темзы принять участие в концерте международной программы "Новые имена". Но концерт по известным причинам не состоялся, не до того. И отложен на неопределенное время. Правда, это не очень огорчило юную "звезду", ибо в силу возраста Коля предпочитает игры во дворе и не любит надолго расставаться с мамой. Да к тому же ему уже не в новинку выступления за границей — он побывал в Нью-Йорке, Ватикане, Германии, Кольмаре... Кстати, на международный фестиваль в этот французский город Коля Гималетдинов получил приглашение от главного организатора — Владимира Спивакова. Эта дружба всемирно известного музыканта и одаренного мальчика из Минска началась заочно: Спиваков услышал кассету с записью Коли и результат — его выступление в программе юбилейного, тысячного концерта "Виртуозов Москвы" (подробнее об этом в очерке "Ангел" с девятого этажа" — "Народная газета" N 128 от 10 июля 1992 г.).

И вот новая встреча Маэстро и его юного подопечного — на этот раз в Испании, где Коля Гималетдинов проведет зимние каникулы, выступая с концертами вместе с "Виртуозами Москвы".

*Упершыню!*

## Ёлка для сяброў чарнобыльскага фонду

**Віктар ЗАГРАДСКІ**

**Гэтае свята запомніцца ўсім і надоўга. Рэспубліканскі Палац прафсаюзаў ледзьве ўмясціў усіх сяброў Беларускага дабрачыннага фонду "Дзецям Чарнобыля", якія сабраліся ў мінулую суботу са сваімі сем'ямі на навагоднюю ёлку.**

Нельга ацаніць бескарысную дапамогу дзецям, трапіўшым у бяду. Шматлікія прадпрыемствы і арганізацыі, творчыя калектывы і беларускія сем'і прыкладваюць вялікія намаганні, каб хутчэй залячыць чарнобыльскія раны. Як адзначыў старшыня фонду Генадзь Грушавы, з іх удзелам, з дапамогай замежных сяброў толькі ў завяршаючым годзе каля 15 тысяч дзяцей прайшлі курс лячэння, пабывалі на аздараўленні больш чым у 10 краінах свету. Створаны першыя рэабілітацыйныя аддзяленні і ў нашай рэспубліцы.

...Доўга кружыў вясёлы карагод вакол прыгажуні-ёлкі. Дзед Мароз прынёс кожнаму падарунак, майстры сцэны выступілі з дабрачынным канцэртам.

І яшчэ быў адзін сюрпрыз. Напярэдадні свята выйшаў першы нумар міжнароднай газеты для жанчын "Міла", заснавальнікам якой з'яўляецца Міжнародная асацыяцыя гуманітарнага супрацоўніцтва і Беларускі дабрачынны фонд "Дзецям Чарнобыля". Кожная жанчына атрымала на памяць гэтае вельмі цікавае выданне.

*Живи и помни*

## Согрейте их сердца!

**Блокадник Ленинграда Леонид Буркин и еще шестьдесят минчан в канун Нового года собрались на своеобразный юбилей — исполнилось 50 лет со дня прорыва блокады.**

Тогда, пять десятилетий назад, это была всеобщая радость — на хлебную карточку, где было указано всего 125 граммов хлеба, прибавили еще сто граммов.

— Получишь, бывало, этот брусочек, не то из глины, не то из опилок, но зерном пахнет, и быстренько проглотишь, а то ведь можно до дома не донести и попасть под бомбежку, — рассказывает Ольга Ильинична Воскова. Сейчас пенсионерка, а тогда 20-летняя девушка, дежурная по станции на Балтийском вокзале.

Когда по льду Ладоги проложили дорогу, город воскрес, люди верили, что не придется пухнуть от голода и холода, но до полной победы было еще далеко. Так давайте согреем их теплом и заботой. В республике живет совсем немного пожилых людей, переживших трагедию блокадного Ленинграда. Пригласите их на завод, фабрику, в школу, послушайте их рассказ, вручите подарок, угостите чаем и душистым, вкусным хлебом. Сегодня его пока вдоволь. И не по карточкам.

*Колонка Павла Якубовича*

## В поиске утраченного времени

Год прошел — как не было. И не скажешь, как бывало раньше: дескать, спасибо, год-труженик, за все, что ты подарил нам, будем вспоминать о тебе с нежностью и благодарностью.

Ушедший год мы вряд ли будем благодарить.

За что? За круги от поспешно брошенного в Вискулях камня, враз переделавшие "родных" братьев в "двоюродных", за умопомрачительные цены, за ярость, которая так и сочится из каждого угла, за кровь Бендер и Душанбе? Поколения, вступившие в жизнь после опустошительной войны, пожалуй, и не припомнят такого, чтобы все 366 дней уходили в тень, знаменуясь новостями одна хуже другой. Дурную славу високосных годов 1992-й поддержал как нельзя лучше, и каждый может подкрепить мои невеселые наблюдения еще более печальными историями из своей жизни.

Но значит ли все это, что за новогодним столом нам нужно грустить и выпивать не чокаясь, стенать и плакать, проклиная свою несчастную планиду?

Некогда великий спортсмен боксер Джек Демпси сказал:

— Я чемпион не оттого, что сильнее всех бью, а потому, что лучше всех терплю...

Время тяжелое, но никто не улучшит нашу жизнь, кроме нас самих. Надо сжать зубы и пережить эту вселенскую кутерьму. Давайте спокойно поразмышляем. Да, сегодня наша Беларусь не числится среди "горячих точек", но и без этих самых точек мы в определенном смысле в состоянии войны. Потому что гигантские реформы, которые нам предстоят, это, по сути дела, тоже отечественная война. Ведь даже ремонт маленькой квартиры, не говоря уже о большом доме, — это бедствие. Что же говорить тогда о сломе, которому подверглась вся наша прежняя жизнь с ее устоявшимся бытом, который десять лет назад мы все дружно кляли, а сейчас многие вспоминают с теплотой?

Итак, война... Но почему-то по злому року мы вступаем в нее, как и в июне 41-го года, несмотря на спокойствие наших вождей, без комсостава, танков и самолетов. То есть без золота, валюты, даже без понимания того, что нам нужно на завтрашний день. Как и тогда, у нас на вооружении свеженькие, только с типографского станка мифы. Полвека назад: "Будем бить врага на его территории!", сегодня — "Да здравствуют реформы — но не за счет народа!"

А за чей же все-таки счет? Почему кто-то должен платить за то, что у нас, даже на тракторном заводе, стоит оборудование, сработанное едва ли не при Демидовых, а в колхозах на утреннюю дойку ковыляют старухи с не гнущимися от каторжной работы пальцами? Разве не нам самим нужно преодолевать самодурство выдающихся руководителей, построивших в Брестской области гигантские свиноводческие комплексы, которые сегодня если что и производят, то в основном отраву для живой природы? Разве кто-то должен платить за пустые магазины да и вообще за все безобразия, которые мы же сами и устроили? Конечно, нет ничего проще, чем собираться и говорить друг дружке вполголоса: "Ну, доиграются... Народ этого не потерпит, народ возьмется за колья". Нет более пленительного занятия, чем ругать начальство, но что проку? Конечно, взвыть хочется, когда узнаешь, что воинствующий атеист Шеварднадзе принял обряд святого крещения, а писатель Распутин, бывший советник Горбачева, заседает в президиуме антигорбачевского Фронта национального спасения, да и бывшие секретари ЦК компартии Белоруссии, ставшие сегодня коммерсантами, — тоже хороши! Но все-таки не в начальстве дело. Коль хотим, чтоб уж если не мы, так хотя бы наши дети смогли пожить достойной жизнью, то нужно не искать виноватых, не отыскивать компромат в биографиях сослуживцев, а взяться за работу. Конечно, моя рекомендация не блещет оригинальностью. Но что делать, коли ничего хорошего на этом свете не появляется само по себе. Любой деревенский дед, не отягощенный курсом диамата, это подтвердит. "Без працы не бэндзе коляцы" — калачей то есть, как остроумно, хотя и на ломаном польском, объяснялся в свое время один из персонажей бессмертного Салтыкова-Щедрина.

А будем работать — будет все. И Россия будет продавать нефть, а не делать подачки с барского плеча, потому что Беларуси вполне под силу иметь свою свободно конвертируемую валюту, и в Польше наших можно будет увидеть не только на вещевом рынке, и американские инвесторы перестанут бояться наших чиновников, которые сегодня своим бдительным бездействием старательно делают из республики пугало для деловых людей всего мира.

Сейчас православные христиане переживают Великий пост. Мудрые предки не зря чтили обычай, видя в нем духоподъемность и возможность для серьезных размышлений над сутью бытия. После Великого поста люди обыкновенно с утроенной энергией брались за работу, своими руками умножая свое богатство. Вот поэтому, отдав горькое должное невеселому високосному году, давайте все мы — атеисты и верующие, мужчины и женщины, люди замечательной земли белорусской — войдем в новый год не смятенной и злой толпой, а народом, гражданами, организованными и способными преодолеть любые трудности. Кстати, отпущено на это немного. Иначе доломаем, разнесем, проторгуем. Что оставим детям?

... Перечитываю строки любимого поэта:

*Эпоха зрелищ кончилась,*
*пошла эпоха хлеба.*
*И перекур объявлен*
*всем штурмовавшим небо...*

Действительно, в дверь нам настойчиво стучит время. Это отнюдь не время деклараций, красивых призывов и риторики. Пора нам всем опуститься на землю и заняться насущными делами. С новым счастьем, дорогие! Оно придет обязательно.

